# Парадоксы жыцьця

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)

* * *

Пасьля вызваленьня Беларусі, недзе ўвосень 44 году сястра Валя, якой тады было 18 гадоў пагадзілася ісьці ва Усходнюю Прусію, каб прыгнаць адтуль у раён каровы. Сказалі, як прыгоняць, усім прыгоншчыкам дадуць па карове. Сястра абрадавалася — сваёй каровы ўжо не было. Гналі той статак доўга, трэба было даіць і пасьвіць, і самім карміцца. Напакутвалася страшэнна. А як прыгналі, кароў усіх размеркавалі па калгасах, а прыгоншчыкам — дулю.

У каторы раз ашукала начальства.

Пасьля такога ашуканства было безьліч.

* * *

Ён быў прарок і вёў за сабой іншых. За ім ішлі. Яму верылі. І ён вучыў боскаму. Бо і сам быў паўбогам. Аднак іншыя ня ведалі, што ён бесьсьмяротны, а яны сьмяротныя. Прыйшоў крызісны час, яны загінулі. А ён пайшоў вучыць іншых. Боскае праўдзе. Высокаму і добраму. Ён мог сабе тое дазволіць.

* * *

У 1939 годзе адбылося "ўзьяднаньне", "далучэньне", "вызваленьне" ці як там Заходняй Беларусі. Ад мае вёскі да былой польскай мяжы было якіх 2 км. Па той бок засталася маміна радзіма, вёска Завулак, яе брат і іншая радня. Усе гады аж да 39-га, я чуў яе расповеды пра Завулак, іхняе бліжняе мястэчка Празарокі, азёры, мясьціны. Але ня бачыў нічога. 20 гадоў — ніякай сувязі.

Увосень 39-га мяжа перасунулася аж за Беласток. Але старую не зьнялі. Пагранічнікі вартавалі, як і раней. А ў нас, як і ўсе калгасныя гады, галаднавата, паснавата. І маці надумала. Неяк цёмнаю восеньскай ночкай пайшла ў Караваінскі бор — парушаць граніцу. Колькі натрывалася страху... Але прайшла. Туды і назад. І прынесла на плячах торбачку мукі і барановую лапатку — гасьцінцы ад брата. Заходняга селяніна. Які гібеў ад белапольскай акупацыі. А мы раскашавалі Заходняга селяніна. Які гібеў ад белапольскай акупацыі. А мы раскашавалі пад роднай савецкай уладай. І гадамі сядзелі бяз хлеба.

Наплакалася мама. Да й бацька... А мы радаваліся: займелі магчымасьць добра паесьці...

* * *

У саракавыя гады (здаецца, у 1947-м) у Гародні арыштавалі дацэнта педінстытуту Ржэўскага. Канешне, за нацыяналізм. Пасьля, калі, кадэбісты абураліся: усё выдаў, ва ўсім прызнаўся. Пры вобыску не знайшлі нейкіх кніжак, дык ён на допыце сказаў, дзе хаваў: у куратніку.

Таму, хто рабіў вобыск, нагарэла. Як было не абурацца — гэтак падвёў нацыяналісты.

* * *

Недзе ў шасьцідзесятыя гады мяне паклікалі ў ваенкамат і далі анкету. Нашто — не сказалі, але неўзабаве стала вядома: зноў хочуць забраць у войска, на гэты раз — у ракетчыкі. Па нейкіх паказчыках я падыходзіў. Праз знаёмага ваенкаматчыка я запрасіў падпалкоўніка Фількова ў рэстаран, добра там выпілі, і ён мне параіў напісаць у анкеце нешта такое, каб не ўзялі. Тады я рашыў напісаць, што на захадзе ў эміграцыі жыве мой стрыечны брат Мікола, які прапаў у вайну. Быццам мне вядома, што ён жыве ў ФРГ. І праўда, памагло. Мяне не ўзялі.

Во як дапамог мой няшчасны Мікола. Даруй мне, браток...




* * *

Пачалася кампанія барацьбы з абстракцыяністамі. У Гародні абкам рыхтаваў актыў з нейкімі пытаньнямі. Але вось першы сакратар Міцкевіч паклікаў мяне. Я, канешне, прыйшоў у абкам. З мефістофельскай усьмешкай на баксёрскім твары той папытаў пра жыцьцё, пра сёетое. А пасьля пытаецца, што гэта піша Еўтушэнка. Я так зразумеў, што яму трэба мая ацэнка, бо, вядома, абкам далёкі ад усяго таго. І, вядома, я адхарактарызаваў Еўтушэнку як выдатнага паэта. Міцкевіч слухаў, усьміхаўся, не пярэчыў. Падзякаваў і адпусьціў.

Праз дзень — сход актыву. Выступае першы сакратар. Граміць Еўтушэнку, Вазьнясенскага і — заадно Быкава і Карпюка, якія, аказваецца, таксама падзяляюць іхнія ідэі.

Вось дык пракансультаваў першага!

* * *

Наступалі, наступалі і ўперліся ў гарадок. Не даваў падступіцца дзот на вельмі выгоднай выспачцы. Армія стала. Масква падганяла. Тады неяк уранку пры разьведцы боем адзін сяржант падпоўз і кінуў гранату. Удала кінуў. Дзот замоўк. Батальён падняўся і захапіў выспу. Дывізія заняла гарадок. Армія прасунулася на два кіламетры.

Хутка выйшлі ўзнагароды. Камандарму за ўзяцьце гораду далі Героя. Камкору ордэн Суворава І ступені. Камдыву ордэн Чырвонага Сьцягу. Камандзіру палка — Айчыннай вайны І ступені. Камбату — другой ступені. Камроты — Чырвонай зоркі. Сяржанту — медаль "За адвагу".

Усім як і належыць. Па чыне.

* * *

Яўген Васільевіч дужа любіў пісаць вершы. Асабліва, як у званьні падпалкоўніка дэмабілізаваўся з войска. Недзе прачытаў, што трэба — ні дня без радка. І працаваў кожны дзень з 9 да 18. Калі толькі ня езьдзіў на рыбалку.

Але во друкавацца... Абласная газета давала адну літстаронку ў квартал. А ў той старонцы — 1—2 вершы Яўгена Васільевіча. Ён спрабаваў правіць іх паміж старонкамі. Хадзіў да рэдактара. Надакучыў літкансультанту. Той, каб як адбіцца ад надакучлівага паэта, аднойчы сказаў, што вершы яго такія добрыя, што шкада іх друкаваць у нейкай абласной газеце. (Хоць былі яны звычайная графаманская дрэнь.) "Можа, у "Правде"?" — падхапіўся Яўген Васільевіч. "Во, паспрабуйце — у "Правду".

І Яўген Васільевіч паслаў у "Правду". І праз які месяц "Правда" надрукавала адзін верш да дня нараджэньня Леніна. Яўген Васільевіч на радасьць літкансультанта перастаў насіць вершы ў абласную газету, усё, што пісаў, адсылаў у "Правду". Але болей там не зьявілася ніводнага яго верша. Ды то не бяда — аўтар быў упэўнены, што ягоныя вершы — толькі для галоўнай газеты краіны. Тым і ганарыўся. І напісаў яшчэ шмат.

* * *

Ехалі ў адпачынак, папрасілі суседзяў паглядзець за кватэрай. Добрыя былі суседзі. Але ў аэрапорце спахапіліся — нешта забылі. Гаспадар на таксі вярнуўся на кватэру і... застаў там суседзяў, якія шнырылі па ягоных камодах.

Добрыя былі суседзі.

* * *

У 1946 годзе ў Нікалаеве лютавалі бандыты. Рабавалі, забівалі. Афіцэры з казармаў разыходзіліся позна. Адзін ротны, прыпазьніўшыся, узяў свой табельны ТТ.

І якраз каля парку Пятроўскага яго спынілі трое. "Скідвай боты!" Ротны выняў пісталет і паклаў аднаго. Іншыя ўцяклі. Тут жа далажыў у камендатуру. Праз пару месяцаў ротнага судзілі. Далі 6 гадоў за забойства. Пасьля асуджаны казаў: "Які я дурань! Лепш бы аддаў ім боты, шынель, голы неяк дабег да дому. Але ж хто ведаў, што законы пісаны для рабаўнікоў, а не для сумленных..."

* * *

Яны прарываліся з акружэньня. Камбат і санінструктар. Як выйшлі, ён папрасіў яе стрэліць яму ў руку, каб па выхадзе не арыштавалі. Яна яго кахала, але... была камсамолкай. І стрэліла ў яго...

Цяпер 50 гадоў дакарае сябе.

* * *

Атрымаў позву на паседжаньне і не хацеў ісьці. Але даўно не хадзіў у Саюз пісьменьнікаў, даўно нікога ня бачыў, падумаў: схаджу. Пабачыцца, пагаварыць з мудрымі. Тым болей, што такія падзеі адбыліся за апошні час у Беларусі і ў сьвеце.

Ажно ня тое б яно было. Зноў, як і 10 і 20 гадоў назад Б. пачаў расказваць нешта сьмешнае пра Пестрака, яму падхіхікваў Ч. Пасьля Ч. пачаў даволі бесцырымонна ўпэўніваць астатніх, што яму трэба прэмія (бо мінулая прысуджана за кіно, а цяпер — за літаратуру). За некага з ліку патрэбных закідваў слова Ш. Пра сёньняшняе страшнае і балючае ні слова. Як і 10 і 20 гадоў таму.

Во — школа!

* * *

У гады вайны ўся партызанка была пад кіраўніцтвам Масквы. Адтуль дасылаліся розныя групы. У тым ліку і чэкісцкія, — пад выглядам разьведвальных. Але што было выведваць у глыбокім нямецкім тыле? У лясах, балотах ды глухіх вёсках? Я ўсё думаў, што тут нешта ня тое.

Аказалася, сапраўды ня так. Чэкісцкія групы мелі больш пэўнае заданьне: вынішчаць "класава чужды элемент". Не данішчаны ў перадваенныя гады. Што яны і рабілі з апорай на мясцовы актыў. Часам самі, часам рукамі немцаў — як Менскае падпольле. А разьведка — гэта любімая "крыша" ўсіх чэкістаў.

* * *

Сустрэча з чытачамі ў бібліятэцы. Прадставіла маладая бібліятэкарка, у зале — чалавек 18—20. Стандартныя пытаньні: як вы працуеце, як адносіцеся, творчыя планы.

Выйшаў на вуліцу і на тралейбусным прыпынку трапіў у людскі натоўп, у тралейбус было ня ўлезьці. Гэта непадалёк скончыўся канцэрт заезджай рокгрупы. Тысячы людзей. Натхненьне. Ажыўленьне. Гэта культура часу. Маскульт, перад якой уся ранейшая — непатрэбшчына. Старая, бедная бабуля...

* * *

На адным з перадвыбарчых сходаў наважыўся. Калі з залы папыталіся, чаму дэмакратаў не падтрымліваюць гэтак дружна, як камуністаў, сказаў: бо так інструктуюць сьпецорганы. Праз сваіх сексотаў. Думаў: зараз будуць апладысьменты, бо хто ж таго ня ведае, хіба ніхто не гаворыць. Але бачу: позіркі ў зале адразу патухлі, твары пазмрачнелі. Ніякой рэакцыі.

Пасьля, як ехалі дамоў, нагадаў пра той эпізод сябрам у аўтобусе, думаў, пачнецца размова. Ды не. Зноў рэакцыя тая ж — раптоўная апатыя. А праз хвіліну — прапанова самага гаваркога: "Давайце сьпяём..."

Вось так!

* * *

Прыехаў у замежную краіну, дзе не было нікога знаёмага. Аднак нехта ўзяў над ім апеку: гатэль і г.д. З таго часу на доўгія гады — самае сардэчнае сяброўства. Езьдзілі адзін да аднаго, сябравалі сем'ямі.

І толькі нядаўна даведаўся, што той — чалавек бясьпекі і ўсё рабіў па яе заданьні...




**Малюнкі В.Быкава.**
*("Дзеяслоў".)*

## СПОРТ-ЭКСПРЕСС

Белорусский теннисист Максим Мирный на турнире в Гамбурге уступил румынскому спортсмену Виктору Ханеску в трех сетах — 6:7, 6:3, 3:6.

***

На чемпионате Беларуси по футболу состоялся последний матч шестого тура. Минская "Звезда-ВА-БГУ" сыграла вничью с солигорским "Шахтером" — 0:0.

## СУД!

## Докатались...

Две недели в Советском районе областного центра промышляла угонами и кражами из салонов автомашин группа подростков. Первым лишился своего железного коня житель Любенского микрорайона, оставивший на ночь "Жигули" во дворе многоэтажки. Впоследствии автомобиль обнаружили разукомплектованным в лесном массиве неподалеку от пригородной деревни Уть.

Затем последовали две неудачные попытки угонов — после того, как двигатели в пути следования глохли и напрочь отказывались заводиться вновь, угонщики с похищенными автомагнитолами скрывались в ночной темноте. Погорели любители покататься на чужих машинах при попытке угона "Форда" со двора в 52-м микрорайоне. Учащегося вечерней школы №7 Дениса Игнатьева задержал на месте преступления владелец вместе со своим четвероногим другом Джульбарсом. Вместе с Игнатьевым на скамье подсудимых оказались ненадолго скрывшиеся двое учащихся ПТУ-152. Перед этим случаем друзья пытались угнать не престижную иномарку, а обыкновенный... "Запорожец".

По приговору суда Советского района Гомеля Денис Игнатьев проведет в воспитательной колонии четыре года, Виктор Майорчик — три года и шесть месяцев. Такой же срок будет "мотать" в исправительной колонии усиленного режима достигший совершеннолетия Денис Терновский.

Докатались хлопцы...

**Михаил ОГОНЬКОВ.**

## Струхнелі...

На сённяшні дзень 73—76 працэнтаў летніх аздараўленчых лагераў у Беларусі маюць патрэбу ў капітальным рамонце. Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў дырэктар Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні **Уладзімір РЫЖАНКОЎ.**

**Вольга АСІПЕНКА.**



**13**
май

**ЧАЦВЕР**
Усх. 5.10 Зах. 21.03
Даўж. дня 15.53
Апошняя квадра
11 мая

Сёлета спаўняецца **405 гадоў** з часу першага летапіснага ўпамінання (1599) г. Вілейка

## ШАШКІ

### З шашачнай скарбонкі

Працягваем класіфікацыйны конкурс-13. У якасці восьмага задання падаем канцоўку міжнароднага гросмайстра Уладзіміра Матуса (Масква), у якой усё робіцца хутка, а ўступленне ўвайшло ў скарбонку шашачнага мастацтва:

**Белыя:** a5, b4, c1, f2, g1, g5, h2, h6 (8).

**Чорныя:** a7, d2, d4, d6, e3, f4, f8, g7 (8).

**Выйгрыш** (тры ачкі).

Тэрмін для адказаў — традыцыйныя два тыдні. Чакаем іх па адрасе: **220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а, рэдакцыя газеты "Народная воля", "Шашкі".**



### Супаставім рашэнні

Праверце, калі ласка, рашэнні пазіцый, змешчаных 25 сакавіка.

**"Тры варыянты".** Заданне №6 (задача У.Матуса) класіфікацыйнага конкурсу-13: f6 (a3 A) b2, h4, f4, f4, hg5#. A (a1) h8, c3, d2, g7, h4, e1, f2 (h4 B) hg3#. B (f4) hg3, g1#. Дапускае перастаноўку хадоў: 1.ef6 b:a1 2.gh8 3.h:c3 4.hg7 (замест аўтарскага 4.ed2), а цяпер 5.ed2 6.gh4 і г.д. Заданне №4 класіфікацыйнага конкурсу-14 (М.Грушэўскі): b8, ef6, d6 (f2) g7, e1x. Легальнасць: дамка c5-d4 (e7:e3). Існуюць і такія варыяцыі аўтара, у якіх не патрэбна даказваць магчымасць зыходнай пазіцыі (адказ В.Масквічу). Як лічыць Л.Жыхар, неабходна растлумачыць рашальнікам, што правільна 3.b8:f4:d2:b4:d6! (турэцкі ўдар). Нельга 3.b8:f4:d2:b4:d6:f4:h2, бо па правілах не дазваляецца двойчы пераскокваць праз адну і тую ж самую шашку — у даным выпадку праз e5.

**Рашылі:** А.Ашыхмін, П.Каролік, А.Сапегін, Ю.Агееў, Д.Кабішаў, Аляксандра Камінская, С.Супрунюк, В.Таратушкін, А.Сняжкоў, Святлана Ламака, Г.Логвінаў, В.Дзялендзік, М.Гардзіеўскі, В.Краўчук, М.Буканаў, В.Астрынскі, М.Блізнец, Я.Кандрачэнка, А.Кагоцька, І.Шчадко, Ю.Сегень.

А вось наступныя канкурсанты за ўказанне 4.hg7 зарабілі па адным дадатковым адчку: Л.Жыхар, В.Казарэвіч, А.Пярхальскі, В.Касцян, І.Мацкевіч, А.Чумакоў, М.Падбярэзскі, А.Белы, А.Янчук, У.Мазанік, П.Чэрнак, Ф.Хадачынскі, Д.Блахін, К.Долаў, В.Кажэўнік, С.Куцеленя, У.Захарчук, У.Сапяжынскі, А.Ляхоўскі, Д.Камчыцкі, М.Андрушчанкаў, Л.Вітошкін, В.Масквіч, В.Грабенка.

М.Буканаву і У.Захарчуку таксама залічана заданне №5 класіфікацыйнага конкурсу-13, рашэнне якога мы прывялі раней.

Удзельнікі класіфікацыйнага конкурсу-12 атрымалі па адным дадатковым ачку за тое, што ўбачылі ў заданні №5 такі недахоп, як зацягванне рашэння: 4.c7 h2 5.b8 g1 6.e5 і далей, як у аўтара (адказ М.Падбярэзскаму і іншым).

### Пазіцыі з партый

Мы інфармавалі вас, што выйшаў шашачны бюлетэнь №1 (г.Мар'іна Горка, орган мясцовага клуба "Дэбют"). Прапануем вашай увазе яшчэ некалькі пазіцый з партый, якія надрукаваны ў ім:

**1.Белыя** (Наўгародскі): b4, c1, c3, d2, e1, g1, h4 (7).

**Чорныя** (Балахоўскі): a5, b6, e5, e7, f4, f6, f8 (7).

1.de3 2.c:e3 ed6 3.ed4 ef4 4.ed2 fg7x.

**2.Белыя** (Ільіч): a5, b4, g5, h4 (4).

**Чорныя** (Блізнец): дамка e1, простыя c7, d4, f6 (4).

1...cb6 2.g:e7 ed2 3.a:c7 d:f6x.

3.Белыя (Мельнікава): a1, c5, e1, f2, g3, h2, h4 (7).

Чорныя (Івашкевіч): a7, c3, d8, e7, f8, g7, h6 (7).

1...gf6, і белым няма куды падацца.

4.Белыя (Блізнец): a3, b2, c1, c3, c5, d2, d4, f2, g1, h2 (10).

Чорныя (Чэлядзюк): a5, b6, b8, c7, d8, e7, f4, f6, g7, h8 (10).

1...ba7 (чорныя не заўважылі камбінацыю на сваю карысць: 1...cd6! 2.c:a7 fg3! 3.f:h4 ab4 4.c:a5 fg5x) 2.fe3 fg5? А зараз ужо яны самі трапілі пад камбінацыйны ўдар з боку белых. Пераканайцеся ў гэтым самастойна. Будзем рады вашым рашэнням.

### Чэмпіянаты, турнір

Завяршыўся чэмпіянат краіны па шашках-64 (вышэйшая ліга). Перамаглі ў ім майстар спорту Кірыл Хайнюк, міжнародныя гросмайстры Аркадзь Плакхін і Андрэй Валюк. Яны набралі па 16 ачкоў, але так іх расставіў каэфіцыент. Чацвёртае—сёмае месцы занялі майстры Сяргей Садоўскі (15 ачкоў), Юрый Файнберг (12), Вячаслаў Палянскі і Мікалай Кадзеснікаў (па 11). Ім, а таксама чэмпіёну пакарылася норма міжнароднага майстра.

У XII чэмпіянаце краіны па складанні камбінацыйных мініяцюр-64 першае месца на роўных занялі гросмайстар СССР Леанід Вітошкін (Гомель) і кандыдат у майстры спорту Аляксандр Кагоцька (Пінск). Яны запісалі на свой рахунак па 20 ачкоў. У актыве кандыдата ў майстры мінчаніна Івана Наўроцкага 16,75 ачка і бронзавы медаль. У дзесятку мацнейшых таксама трапілі міжнародны майстар В.Шульга (Мінск) і майстар А.Сапегін (Мсціслаўскі р-н) — па 16, майстры В.Іваноў (Мінск) і А.Церахаў (Расія) — па 15,5, П.Шклудаў (Наваполацк) — 13,5, М.Вяргейчык (Гомель) і М.Грушэўскі (Мінск) — па 12,5. Чэмпіёны Л.Вітошкін і А.Кагоцька, а таксама трэці прызёр І.Наўроцкі — нашы пастаянныя аўтары.

У Віцебскай вобласці адбыўся турнір "Пастаўская вясна-1". Ён сабраў 28 удзельнікаў. Першае—другое месцы з 14 ачкамі падзялілі А.Валюк (Гродна) і А.Плакхін (Мінск). На адно ачко адстаў ад іх трэці прызёр майстар Генадзь Барысаў (Віцебск).

Сярод жанчын лепшымі былі майстар Марына Разаева (Віцебск), Марына Лічко (Мінская вобл.) і кандыдат у майстры Ірына Федзяева (Глыбокае). Арганізавалі турнір кандыдаты ў майстры спорту Іван Троцкі і Уладзімір Халдэй.

Паведамілі экс-чэмпіён Беларусі Вільям Астрынскі, майстры Гары Далідовіч і Генадзь Барысаў.

**Мікалай ГРУШЭЎСКІ,**
**майстар спорту.**

## ШАХМАТЫ

### Задача-лауреат Ф.Палич

**Белые:** Kpb6, Фe5, Ch3 (3).

**Черные:** Kpd8, Cd1, пп.c4, d3 (4).

**Мат в 3 хода.**



Предлагаем вниманию читателей трехходовую задачу-миниатюру, которая была отмечена специальным призом на конкурсе. Попробуйте найти ее решение. Свои ответы присылайте по адресу: **220030, Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты "Народная воля", "Шахматы".**

### Шахматный «Оскар» у В.Ананда

Журнал "64-Шахматное обозрение" провел традиционный опрос, который определил лучшего шахматиста 2003 года. В опросе приняли участие 358 шахматных специалистов из 65 стран. Шахматный "Оскар" — приз лучшему шахматисту года по результатам опроса — присужден экс-чемпиону мира ФИДЕ и чемпиону мира по быстрым шахматам 2003 года индийскому гроссмейстеру Вишванатану Ананду, набравшему 4150 очков (за первое место начислялось 13 очков, второе — 11, третье — 9, четвертое — 7, пятое — 6, шестое — 5 и т.д., десятое — 1 очко). Преимущество Ананда было подавляющим, занявший второе место чемпион России Петр Свидлер получил лишь 2575 очков. В первую десятку, по результатам опроса, вошли также: 3.действующий чемпион мира Владимир Крамник (Россия) — 2518, 4.экс-чемпион мира и рейтинговый лидер Гарри Каспаров (Россия) — 2262, 5.победитель соревнований претендентов на матч с чемпионом мира Петер Леко (Венгрия) — 1867, 6.сильнейшая в мире шахматистка Юдит Полгар (Венгрия) — 1528, 7.Александр Морозевич (Россия) — 1381, 8.Виорел Бологан (Молдова) — 1359, 9.Найджел Шорт (Англия) — 529, 10.Евгений Бареев (Россия) — 535.

### Гроссмейстеру — 13 лет!

В Дубаи (ОАЭ) прошел традиционный международный шахматный турнир, собравший сильный состав участников. За высокие призы вели борьбу 44 международных гроссмейстера и около 30 международных мастеров. Соревнования проводились по швейцарской системе в 9 туров. В острейшей борьбе единоличным победителем турнира стал чемпион мира среди юношей в возрасте до 20 лет прошлого года международный гроссмейстер Шахриар Мамедьяров (Азербайджан), набравший 7 очков. Сразу 12 шахматистов, в том числе и норвежский вундеркинд 13-летний Магнус Карлсен, набрали по 6,5 очка и разделили места со 2-го по 13-е. В турнире выступал гроссмейстер Алексей Федоров. Могилевчанин набрал 6 очков и разделил места с 14-го по 25-е.

Магнус Карлсен не только занял высокое место, но и выполнил норму международного гроссмейстера. А поскольку это случилось у него уже в третий раз, то сейчас слово за ФИДЕ, которое должно оформить юного шахматиста в высшем звании.

Игра Магнуса привлекает к себе внимание не только результатами, но и высоким качеством. Вот одна из победных партий юного норвежца, одержанная над опытным и сильным российским гроссмейстером на турнире "Аэрофлота" в Москве в феврале 2004 года. Кстати, в этом турнире Карлсен также выполнил норму гроссмейстера.

### М.Карлсен — С.Долматов
### Голландская защита

1.Kf3 f5 2.d3 (заслуживает внимания и немедленное 2.e4!?) 2...d6 3.e4 e5 4.Kc3 Kc6 5.ef C:f5 6.d4 K:d4 (Невыгодно 6...Kb4 ввиду 7.Cb5+ c6 8.Ca4 e4 9.Kg5 d5 10.f3 ef 11. o-o! с опасной инициативой у белых) 7.K:d4 ed 8.Ф:d4 Kf6? Ведет к трудной позиции, лучше 8...c6 9.Cc4! c6 10.Cg5! b5 (Если 10...d5, то 11.o-o-o Ce7 12.Лhe1 o-o 13.Фe5) 11.Cb3 Ce7 12.o-o-o Фd7 13.Лhe1 Kpd8 (На 13...o-o-o могло последовать 14.g4! C:g4 15.Л:e7 Ф:e7 16.Ф:g4+!) Но теперь белые решают партию при помощи жертвы качества. 14.Л:e7! Ф:e7 (или 14...Kp:e7 15.Лe1+ Kpd8 16.C:f6+ gf 17.Ф:f6+ Kpc7 18.Лe7) 15.Фf4 Cd7 16.Ke4 d5 17.K:f6 h6 18.Ch4 g5 19.Фd4. **Черные сдались.** На 19...gh решает 20.K:d5.

### Юные чемпионы

В Минске в Центре олимпийской подготовки по шахматам и шашкам прошло первенство Беларуси по быстрым шахматам среди мальчиков и девочек в возрасте до 10 и 12 лет. В группе до 10 лет у мальчиков выступали 32 участника. Соревнования проводились по швейцарской системе в 9 туров. Победителем стал минчанин Владислав Ковалев, набравший 8 очков. Недавно на чемпионате Минска среди мужчин он выполнил норму кандидата в мастера. На пол-очка от чемпиона отстал Станислав Бузунко из Орши, занявший второе место. А бронзовым призером стал брестчанин Антон Сегодник — 7 очков. У юношей в группе до 12 лет борьбу вели 34 спортсмена. Здесь первым на финише был Станислав Цыганчук из Орши — 8 очков. На очко меньше в активе мозырянина Никиты Бодяковского, занявшего второе место. А третий результат показал минчанин Никита Кисель — 6,5 очка.

У младших девочек (до 10 лет) победу праздновала минчанка Анастасия Зезюлькина — 7,5 очка. На очко отстала Полина Осипова (Минск). Четыре участницы показали одинаковый результат, набрав по 6 очков. По дополнительным показателям третье место было присуждено минчанке Диане Мальцевой.

У девочек в группе до 12 лет было 18 участниц. Здесь победу одержала Юлия Львова (Рогачев), набравшая 7,5 очка из 9. По 7 очков набрали Елена Хомякова (Минск), получившая серебряную награду, Ольга Соловьева из Витебска — бронзовый призер и минчанка Ланита Стецко — четвертое место.

## Четверг, 13 мая

### БТ

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12,00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30, 19.55** "Деловая жизнь".
**09.15, 19.10 "Сага о Форсайтах".** Сериал.
**10.05, 20.00 "Семнадцать мгновений весны".** Сериал.
**11.05, 17.30 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.10** "Хроника тайной войны". Видеофильм.
**12.25 "Часы остановились в полночь".** Худ.фильм.
**14.15** "Точка".
**15.10 "Самые, самые, самые".** Сериал.
**16.05** "5х5".
**17.05** "Земельный вопрос". Общественно-политическая программа.
**18.30** "Новая коллекция" Олега Лукашевича".
**21.00** "Панорама".
**21.50** "Права человека. Взгляд в мир".
**22.00 "Ночь вопросов".** Мелодрама.
**23.50** "Клип-обойма".

### ОНТ

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.55** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**С 09.05 до 17.00 — профилактика.**
17.00 "Берег мечты". Сериал.
**18.10** "Дом". Реалити-шоу.
**19.05 "Клон".** Сериал.
**20.00** "Время".
**21.05** "Дорога в никуда". Док.фильм.
**21.45 "Другая жизнь".** Сериал.
**22.50 "Улицы разбитых фонарей".** Сериал.
**00.10** "Фабрика звезд-4".

### РОССИЯ

**07.45, 19.55 "Демон полдня".** Сериал.
**08.50** "Короткое замыкание". Ток-шоу.
**09.45, 22.50** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30, 22.15** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50** "Что хочет женщина".
**11.50, 21.00 "Против течения".** Сериал.
**16.10 "Госпожа победа".** Сериал.
**17.05 "Комиссар Рекс".** Сериал.
**18.00** "Городок".
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!".
**22.00** "Вести +".
**22.20** "Без галстука" с Ириной Зайцевой.
**23.05 "Почти знаменит".** Драма.

### ЛАД

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Площадь искусств".
**08.35 "Продавец воздуха".** Худ.фильм.
**09.35** "Здоровье".
**10.05, 18.40** "Между нами, женщинами". Тележурнал.
**10.25, 21.15 "Грешная Анхелика".** Сериал.
**11.10, 13.05** "Обычный необычный день".
**11.45 "Табачный капитан".** Худ.фильм.
**13.35** "Про паучка, с которым никто не дружил", "Чуня". Мультфильмы.
**14.10** "Мультиклуб".
**15.05 "Команда "SOS".** Сериал.
**15.30** "Не зевай!".
**15.40** "Бум". Тележурнал для школьников.
16.10 "Век неблагодарного прогресса". Док.сериал.
**17.00 "Сыновья уходят в бой".** Худ.фильм.
**19.00 "Майская ноч, или Утопленница".** Худ.фильм.
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".
**22.05** Плавание. Чемпионат Европы. Видеообзор.

### НТВ

**09.00, 11.00, 15.00, 18.00, 21.00** "Сегодня".
**09.25** "Квартирный вопрос".
**10.20** "Страна советов".
**11.30 "Игра воображения".** Комедия.
**14.35** "Принцип "домино".
**16.30** "Дикий мир: борьба за выживание". "Тигры за дверью".
**17.35** "Протокол".
**18.40 "Смертельные мысли".** Драма.
**21.00** "Страна и мир".
**21.35** "К барьеру! Ток-шоу.
**22.45** "Тайны разведки".

### СТВ+RenTV

**06.15, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.25, 15.40 "Пауэр Рейнджерс, или Могучие рейнджеры в космосе".** Телесериал.
**06.50** "Приключения пингвиненка Лоло" №2, "Умка ищет друга". Мультфильмы.
**07.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.00** "Светская хроника.
**08.15, 23.05** "Технология".
**08.30** "Ессе Номо".
**08.45, 20.40** "Фильм, фильм, фильм".

**С 09.00 до 15.00 — профилактика.**
**15.10 "ОБЖ, или Обреченные на сражение".** Сериал.
**16.00** "Веселые баксы".
**16.15** "Добро пожаловаться...".
**16.50 "Легкий поцелуй".** Комедия.
**18.15** "Театральные истории".
**18,30 "Инструктор".** Сериал.
**20.25** "Добрый вечер, малыш...".
**20.55 "Битва драконов".** Боевик.
**23.15** "Турпоход".
**23.25** "Душой исполненный полет".
**23.55 "Секретные материалы".** Сериал.
**00.40** "Новости СНГ".

### 8-Й КАНАЛ

**17.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.45 "Дорогая, я уменьшил детей".** Комедия.
**19.15** "Знакомьтесь — Беларусь!"
**19.25** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...
**19.30 "Вечный зов".** Сериал.
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Региональный репортаж".
**21.15 "Пассажир номер 57".** Триллер.

### ТВ ЦЕНТР

**04.45, 06.30** "Настроение".
**07.35** Газетный дождь.
**07.45 "Убежище".** Боевик.
**09.40** "Войди в свой дом".
**09.45** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00. 21.00** События. Время московское.
**10.15** "Дата".
**11.10** "Доходное место".
**11.20** "Твой континент". Телеигра.
**12.05, 23.00** "Петровка, 38".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.30** "21-й кабинет" с Виктором Белицким.
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** "Тайна зеленой комнаты".
**16.00 "Уголовная полиция".** Сериал.
**17.15** Московские перекрестки" с Олегом Табаковым".
**18.00 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**18.55 "Зебра".** Трагикомедия.
**21.40** "Наша версия". Под грифом секретно".
**22.30** "Времечко".
**23.20** 25-й час. События. Время московское.
**23.45** "Музыкальный серпантин".
**00.00 "По закону".** Сериал.
**01.00** "Синий троллейбус".

### EUROSPORT

**09.30, 02.00** Футбол. История чемпионата Европы.
**10.00, 15.30** Плавание. Чемпионат Европы в Испании.
**12.00** Олимпийские игры.
**12.30** Футбол. Чемпионат Европы среди юниоров во Франции.
**14.00** Теннис. Турнир WTA в Италии.
**16.30** Велогонки. Тур Италии.
**18.30, 20.30** Плавание. Чемпионат Европы в Испании.
**21.30** Бокс. Международные соревнования.
**23.30** Ралли. Чемпионат мира на Кипре.
**00.00** Новости "Евроспорта".
**00.15** Боевые единоборства.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс(017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**



Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 500 экз. Заказ № 645.